# ДЗЯННІЦА

## Беларуская штотыднёвая газэта.

**Выходзіць у Пітраградзэі, Кацярынінскі канал, дом № 72, 23.**

Падпісная плата: на 12 мсц — 4 рублі
на 6 „ — 2 „

**Асобны номір — 10 капеяк.**

**№ 2** **9—XI** **1916 году.**

*Пітраград. 9—XI—16.*

Чым сьвятлейшы народ, тым боляй йон даражыць газэтай і кніжкай, і тым боляй йон мая гэтай яды для свае душы. Наадварот, у якой старане шырэй і боляй развадзіцца друкаваная слова, тае стараны культурней народ. Газэта і кніжка на роднуй мові ясней усяго іншага могуць сведчыць аб культурным росця народу. Друкаваная слова—гэта йосьць першая ступенька да развіцьця далейшага. І вось мы бачым, што ні адзін народ ні абмінуу яе, калі прабувау зрабіць шаг у перад па пуціня свайго развіцьця. Наадварот, друкаваная слова памагала яму у гэтум, ішло рука з рукою із гэтым.

Цяпер,

мы яскрава бачым, што яму нельга абыйсьціся бяз свае газэты, бяз друкаванага слова. Само жыцьцьо вымушая к гэнаму; ня дзіва, што с часу закрыцьця бяларускіх газэт, мы, бяларусы, ачуваїмся нібы у некуй цьомнуй ямї, дзе адзін другога ня бачым і ня можым пїракінуцца словам-другім аб сваім уласным жыцьці

Жыцьцьо, як гэткая, нічагуткі ня спыняїцца, ні чакая, а нясупыпна плыве-бяжыць уперад і уперад па раз с прадвеку выбранай пуціня. К яму трэ прыслухоувацца, сачыць і ня аставацца. А ля гэтага патрэбна газэта; бо газэта, як люстэрка, у якім можна адбіць жыцьцьо куска часу, паказаць нябачучым яго. А жыцьцьо паміне нас, беларусау, бо бяжыць вельмі наотдаль ад нас. Чаму? Бо мы бяз газэты. Мы глухія і сляпыя. Дык дайдзьом жа ясным розумам усяе тае вагі, якую хавая у сабе газэта на роднуй мовя і прырачом бярагчы яе, любіць і шанаваць. З газэтаю нам атчыніцца шырэй небасхіл, цяраз газэту мы можым згаварыцца, парадзіцца і цяраз яе увыйсьці у сямью культурнейшых народау.

*Д. Ж—ч.*

## Бацькава воля.

Раман *Ц. Гартнага.*

Часьціна першая.

2.

Ні чакаючы, аднак, покуль войдзя у хату маці, Зося неяк напала у кошыку на паліцы на кавалачык сала, дастала яго, а да таго яшчэ адламала палавіну яшнага блінца і усмак пачала уплятаць.

Ня больш, як хвілін праз пяць, у хату увыйшлі: Зосін бацька, здаровы чорны і смуглы, але яшчэ малады і здаровы мужчына, з разчэсанымі на прадзел валасамі, у чыстуй крамнуй картовуй жакетцы, у такіх самых портках, выпушчаных цяраз халевы элегантных глянцовых ботах з густымі, як у гармоніку, складкамі, работы самага лепшага масьціра у Сілцох, Самуля Пыця; рэзвы і с тайомнай хітрасьцю ды пранырлівасьцю мужык Мікола, якога мелі у воку траха ня усе волашчане, ніколі ніводнае справы ня уладзійшыя бяз яго, Прыдатнага. На шаг за ім піраступіу парог Васіль Берае, малады і крэпкі хлапец, але няхлюяваты, сутулы і косы, з льогкім рабаценьням на белум пляскатум твары, сын Янкі Берага, аднаго ад балацеяу сілцяускіх, памёршага некулькі гадоу назад ад запаленьня і пакінуушага свайму ядзінаму сынку вялікая наслества, якоя аддау разам з ім пад апеку свайму малодшаму брату, Хльору, да — „саваршэнналецьця Васіля“, як пісалася у завяшчаньні... У канцы усіх была Марта, маці Зосіна, тволая карчукаватая, але рухавая і вывьорткая маладзіца, гадоу так пад трыццать пяць, с поуным чырвоным тварам і

зняпамерна пукатымі грудзямі і шырокім крыжам; нібы заведзяная машына, яна бяз пярамціханку усьо ляпятала, ні на момэнт ня сціхнуушы, ушчаушы шчэ з надворку. Свайою гутаркаю Марта разам ажывіла усю хату.

— Няхай бы ты хаця троху паучубырылася. Эх, эх, няахайніца ты, як я бачу (гырачылася яна на Зосю, убачыушы яе у тым адзеньні, у яком тая пасьвіла каня). „Вось-жа ня бачыш хіба, што у цябе пад бокам каханак, як золата: чысцянькі, яккуратняНЬкі, ажно міла падзівіцца на яго, — указваючы пальцам на Васіля, дабавіла Марта і пры гэтым жартоуна падмігнула хлопцу пранозаватымі вачыма, ажно той ня уцерпіу і ухмыльнууся. Гледзючы на яго, стала весьла і Міколу, які толькі увыйшоушы у хату, барджэй хваціуся за люльку і стау псы-їра паць тутунь с пачку у капшук.

— О, браток, Васіль — весяла загаманіу Мікола, ня вымаючы люлькі з губ, каб табе ды Бог памог дастаць такую бабу як мая Марта— ніколі-б ня загінуу бы... Маскаль-ня баба!.. Дачка-та ужо зусім інакшая, ня тоя...

— Вось годзі хаця грашыць Богу, — няздавольная адсекла гаспадару жонка: яшчэ дай толькі Божа, каб наша Тэклячка пашла па Зосі, то я-б нічагуткі ад Госпада ні прасіла-б... Ато...

— Ты ша-ша-ша, я ж ніякае ганьбы на Зоську ня ускладаю, — перяцяу Мікола жонку на слові.

— Та будзя вам хаця сварыцца; а то за мяне ды гатовы шчэ зачубкі ухапіцца. Клопат вам вялікі аба мне: якая ужо йосьць такой і буду,—упікнула бацькоу Зося стоючы пры стале і с думкаю, па гуль-

тайсву жуючы у роця.

Васіль маучау; яму неяк ніякавата было слухаць чужую спрэчку, і йон, нібы ні звяртаючы на іх увагу паважна і самавіта праходзіу па хаці та уперад, та назад, дудукаючы сабе пад нос нейкую зацяжную няроуную мэльодыю. Час ад часу падымау к столі галаву, азірау сцены, абразы, якімі быу убран увесь покуць і дзьве сцяны: адна ат траму да цокуці, другая с покуці да першае бэлькі. З абразоу йон спускау вочы ніжэй і пазірау на стол, а аттуль на твар Зосі — малады, сьвежы і жыцьорады. Яму, Васілю, натта-ж жадалася сеньні вымавіць з йою, Зосяю, хоць некулькі слауцоу, выказаць імі тыя думкі, якія йон бярог ля гэтага ужо многа часу, ды усьо ня меу здарэньня, а то і ні асьмельвауся выказаць іх ей. Любячы Мікалаішку (так празывалі Зосю у Сілцох), любячы яе нязьмерна, нявыказана, як сможа толькі любіць чалавек з яго розумам, з яго павагай, з яго пryткасцю, — Васіль мучыуся весь час адным: яму усьо думалася, што Зося яго зусім ні кахая, а калі зрэдку і сустракаіцца, ды стрэушыся пяракініцца некулькімі славамі, ці пройдзя крыху, та гэта усьо так сабе, па далікатнасьці толькі; сэрцаж яе ляжыць зусім к другому: к таму, як відаць, гарацкому збегляцу, Рыгору Нязвычнаму. Йон ужо ат многіх чувау, што Зося з ім абменьваюцца пісьмамі, што заусьоды яна забегвая да яго мацяры, Стэпы, тайком ат сваіх бацькоу, каб праведаць аб ім; ды нават заусьоды, апроч гэтага, із ім, Васільом, часта у гутарцы ані ні саромяіцца успамінаць Рыгора. І гэта усьо так прыкрыла Васілю, гэтак мучыла яго,

I.

Акінім вокам гал вакольны:
Палетак жытняй збажыны,
Зяльоны пекны луг прывольны
Нязьмернай воку шырыны;
Аглянїш бор стары, драмучы,
І той разрыхляны курган,
Які пяском вакол сыпучым
Нібы-та рызаю убран;
Сыпынім зірк на тракту гразкум,
Што уйэцца стужкаю кудысь;
На небя сінім у зорных зразках,
Якія усеялі усю высь,
І сэрца разам затрапеча,
Падымя, усхваля пачуцьцьо:
Нячутнай роднай здэцца рэччу
Наукруг гавора мне жыцьцьо.
Устае у прыгожум дзіунум зданьні
Нязмернай пекнасьці абраз,
Які створыла будаваньне
Мінуушых дзьон — мінуушы час.
На дне істоты зсірацелай,
Бяз родных скуткау і прыстань,
Атбліскі веры чыстай сьмелай
Сваю развертваюць убрань...
І лічыш ты гадзінау знізкі,
І удаль пускаїш свой пагляд...
І здэцца час абноуны блізка —
Мінуушы час ідзе назад...

*Цішка Гартны.*

Пітраград, 1914, 22/7.

* * *

## Пісьмо

да . . .

Даруй маю мне ніахільнасць:
Я ні магу маучком сьцярпець, —
Да шчасьця шчырая прыхільнасьць
У маей душы яшчэ жывець...

С табой мы годы маладыя
Спаткалі у роднай старане,
Пазналі думкі залатыя
Аб сьвету, сонцу, аб вясьне.

Ты часта плакала начамі
Што дарма сілы я гублю,
І усьож глыбокімі вачамі
Мне гаварыла: я люблю!

што йон ня ведау, якімі-б лекамі збавіцца ад яго і збавіць Зосю. „Ах, ах, — почасту раздумывау йон: „хай бы яго там якая немач прыдушыла, каб йон ня змог ужо вярнуцца і чмуціць яе боляй... або... не... каб як, здаецца, яе бацькоу падбухторыць та яны-б яе скора аднадзілі-б ад яго; толькі, апроч усяго, дзівуя мяне адно: і што гэта за дурасць найшла на дзяучыну? Хіба ж яна нічагуткі ні разумея, што ня бачыць той вялізнай розніцы, паміж мною і тым галяком, збягляцом тым... Але—нічога: бацькі яе хітры і, як я бачу, дык бацька хінець к таму каб яна іначай думала“.

І цяпер, тупаючы па хаці, йон у тысячны раз пірадумывау іх, гэтыя заблытаныя, ня разгаданыя сваe думкі... Нешта нашэптвала яму, каб йон асьмеліуся і пазвау Зосю прайсьці з йім на вуліцу, прысесьці дзе на прызьбя ды пасядзець у дваіх і разсказаць ей усьо тоя, што згрудзілася у яго на душы, выкласці усе свае таемнасьці, — толькі нейкая палахлівая нясмеласьць, нейкая цьомная, дзіцячая баязлівасьць стаялі папярок і па начальніцку стрымлівалі яго рашэньне, прасцярагалі ад лішняга зьяуленьня яго. І нівядама, чымсьбы і як усьоб гэта скончылася: пазвау-бы йон Зосю сам, ці яна-б мо нашякнула яму, а мо і ні йон, ні яна ні абазвалісяб словам і бедным, а моучкі, прышлося-б Васілю пасядзець і пакінуць хату Міколы, каб ня Марта як натоя шчасьця, каторая зразу загаманіушы, усьо вывяла на новую дарогу.

(Далей будзя).

Ты цьвет надзеі распусьціла
У праменьні сонца нада мной;
С табой жыцьцьо было мне мілым,
Я красавауся, жыу табой.

За штож пакінуты, нішчасны,
Як у жалезнай клетца зьвер,
Я мушу жыць, мой Аньол ясны,
Аднэй трывогаю цяпер?..

*Тодар Ч—віч.*

* * *

## Дзедава рада.

Майструючы нейкую трасцу —
Ці санкі ці можа чаунок, —
Хлапец, праз ніувагу, у паліц
Загнау сабе стрэмкі кусок.

Разроуся хлапец з пірапуду,
Ні дасьць сабе рады ніяк,
Крычыць, галасуя... Во матка
Падбегла: „Чагож ты, бядак?“

А ужо ля хлапца і дзядуля;
Той цешыць яго: „Эт, дармо!
Кладзі хутчэй паліц у губы,
Смакчы — дык пяройдзя само.

Матулька, зьдзівіушысь, пытаіць:
„Ціж спрауды паможа што так?
— Алѐ,—хоць ад крыку“, дзед кажа,
„Бо больш ні уняць ані як“!

*Альбэрт Пауловіч.*

## Думкі да граматыкі.

Калі заводзіцца граматычны спосаб пісаньня, то гэта разумець трэба — што заводзіцца аднастайны спосаб пісаньня слоу, ня зьміняючы способа выгавору іх.

Пішуць:

| | | |
|---|---|---|
| сінія | — сініе | — сініі |
| пекныя | — пекные | — пекныі |
| добрыя | — добрые | — добрыі |
| мілыя | — мілые | — мілыі |
| сіняга | — сіняго | — сініга |
| пекнага | — пекнаго | — пекныга |
| добрага | — добраго | — добрыга |
| мілага | — мілаго | — мілыга |

На канчатку, ось відаць, адны пішуць „я—а“, другія „е“, „о„, „і“, значыцца усяк пішуць, а гаварыць усе гаворуць аднастайна, бо усе аднастайна у гэных славах і ім падобных ніясна выгаварываюць астатні гаманок.

Гаманкі „о“ і „е—э“ любюць яснага выгавору, праэтоя любюць быць пад націскам (пад акцэнтам), як ужо прыхадзілася гаварыць; значыцца — па аднаму у словя, або па два у славах — з двух слоу зложаных як: *белабокі, цьомнашэры.*

Ніясныяж, няпэуныя гучныя гаманкі найбольш падобны да „а“.

Ось дзьля гэтага, ды і дзьля таго, што каб усе у падобных разох словы мелі аднастайны канчатак, бо так ужо шмат хто пішыць:

благог*а*, малог*а*, чужог*а*,

дык і трэба пісаць:

сіняг*а*, пікнаг*а*, добраг*а*, мілаг*а*.

Таксама, каб усе аднастайнага способу пісаньня трымаліся—трэба пісаць:

сіні*я*, пекны*я*, добры*я*, мілы*я*,
бо ніясны гаманок на канчатку больш падобны на „*я*“, меньш на „*і*“, а яшчэ меньш на „*е*“.

* * *

Устанауляючы аднастайны спосаб пісаньня ніясных гаманкоу у флексіях — на самым канчатку слоу — і у суфіксах — у канцавых складах слоу, — трэба мець на памяці каб формау нашай беларускай гаворкі ні зьміньшаць, бо формы—гэта йосьць багауцва гаворкі, гэта яе ружніць ад другіх гаворак.

Да формау належыць:

| | адна форма | другая форма |
|---|---|---|
| 1) | йон ідзець | — йон ідзе |
| | йон пяець | — йон пяе |
| 2) | рабіць | — рабіці |
| | піяць | — піяці |
| 3) | ідуць мужыкі | — ідуць мужыкѐ |

| | | |
|---|---|---|
| | мае валы | — мае валэ |
| 4) | нашай хаты | — нашае хаты |
| 5) | з мамай | — з мамаю |
| | з цілой | — з пілою. |
| 6) | ідзьом | — ідзімò |
| | аддадзьом | — аддамò |

(Далей будзя).

*Акцьуб.*

# Навіны.

**У Казані** аткрыта першая для дзіўчат татарская гімназія.

**У Ніжнім-Ноугарадзі** за дзесіць месяцау па губэрні адкрылася 584 коопэрацыйных крамак. Дауней адкрывалася такіх каля 10 праз увесь год.

†

У Палякоу праз час вайны шмат страт з паміж важных сваіх людзей. Смерць пірарвала жыцьцьо шмат дзельным грумадзянам. Ось нідауна у Швайцарыі зьмьор знаны усяму сьвету *Гэнрык Сеньkевіч*, вялікі польскі пісьменьнік і старанны для Польскага Краю грумадзянскі працаунік.

Шмат йон за жыцьця напісау кніг па польску, шмат хлапаціўся каб долі польскага народу успамагчы.

Сьмерць Гэнрыка Сенькевіча — вялікая страта для Палякау. Шчыра ім спагадаім у гэтым, а вялікаму пісьменніку, славяніну, — дай Божа прытулак каля Сябе.

*а—б.*

# З Літвы.

З Бьорна паведамляюць у газэту „Temps", што нацыянальны літоускі савет прыняу такую рэзалюцію: „Прымаючы да уразуменьня: 1) што гэрманская начальства, пасаджаная на пакінутых рускімі землях спыніла у Літве работу выбарных гарадзкіх і земскіх упрау і замяніла нямецкімі ваеннымі і ніваеннымі управамі; 2) што там сурьозна заняволяна усякая публічная жыцьцьо, заняволяны культурныя і эканамічныя супалкі; 3) што закрыты усе газэты, якія друкаваліся на роднуй мове (гаворца), а замест іх выдаюцца газэты на нямецкум языку і толькі адна з іх ахвіціяльная на літоускум; 4) што гэрманцы сілаю уводзяць нямецкі язык у вучыліш чах і што тым вучыцяльом, якія гэтаму прашкодзяць, дастаецца кепска ад нямецкіх інспэктароу; 5) што насаджаная немцамі начальства, прагнучы барджэй знямечыць краіну, ні уважаіць, ідучы да гэнай мэты, ні на што; 6) што высякаючы лясы і звозючы дрэва у нямеччыну, гэтым знішчаюць краіну і робюць ей ніпапрауную шкоду, — націоальны літоускі савет пратэстуя супроць гэткіх парадкау, нідастойных выхадзіць ад парадачнага народу.

# Вайна.

Ад Рыгі да Дзьвіны і аж да Ковіля засталася лінія праз сьолітняя лета на мейсцу. А ад Ковіля пад Румынію шмат зьмянілася: Рускія вясной пасунуліся на аустрыякау з вялікай удачай, адпьорлі іх дальока назад, забралі шмат зямелькі у Галіціі, у Букавіня і дайшлі аж да Карпацкіх гор.

Немцы нідауна натта напьорліся былі на Румынію, алі да румын на

падмогу падасьпелі рускія і немцам удалося даць адпор.

У Грэціі часьць народу стаіць за вайну, — каб прагнаць баугар з іх зямелькі, а кароль і часьць народу старонюцца вайны. Дык тая частка народу, што за вайну бярэцца, адзялілася ад караля, маіць свайо правіцільства асобная, зьбіраїць войска і зьбіраіцца біцца із баугарамі.

Італіянцам удалося летам паціснуць аустрыякау назад і пакульшто выйгрыш на старане італіянцау.

У Франціі і у Бельгіі лінія праз лета зьмянілася на карысыць французау. Немцы доугі час, так с паугода страшэнна пьорліся забраць Вэрданскую крэпасьць, каб папасьці на прасьцейшую дарогу к Парыжу. А ось нідауна французы узноу адагналі немцау ад Вэрдана.

У бок ад Вэрдана, пад мора, французы і англійцы разам напьорліся на немцау і таксама адціснулі іх назад.

---

Рӓдактар-выдавец Д. Жылуновіч.

---



„Русско-Французская Типографія“ Офицерская, 6.